## Ой там на балоці

Ой там на балоці
Птушачка чыкоча
Знаці, знаці міленькага,
Што пакінуці хоча.

Ты шчэ не пакінеш
Сам марна загінеш
Быстранькою рэчанькою
Усёй Дунай іспльвеш.

Ты будзеш плываці
Будзеш патанаці
А я млода младзюсенька
Не буду ратаваці.

Вывела каніка
Вынесла сядэлко
Сама стала заплакала
Дзе ж едзеш сардэнько.

Паеду, паеду
На рок на ваенку
Прышлю, прышлю два лісцікі
У нядзелю ранюсенька.

Адного такого
Што будзеш чытаці
А другага ой ды такого,
Што будзеш плакаці.

Не буду, не буду
Дапраўды не буду
Гаравала я з табою
Той без цябе буду.

Ад 63-гадовай **АЛЕСІ ІВАНЮК** у Плюцічах, Бельскага павета запісаў **В. БАРШЧЭЎСКІ**



Беларускі мастацкі музей. Мінск. М. В. ДАНЦІГ — «НАСУСТРАЧ ЖЫЦЦЮ».

# ПАЭЗІЯ КАХАННЯ І ТУГІ

**У ДАДАТКУ ДА УКРАЇНСКАГА «НАШАГА СЛОВА» ЗА 26 ЛІПЕНЯ Г. Г. «НАША КУЛЬТУРА» З'ЯВІЛАСЯ РЭЦЭНЗІЯ «РУНІ» ПЯРА ЯЎГЕНЯ САМАХВАЛЕНКІ П. З. «ПАЭЗІЯ КАХАННЯ І ТУГІ». СВАЮ РЭЦЭНЗІЮ ЯЎГЕНЬ САМАХВАЛЕНКА БАГАТА ІЛЮСТРУЕ ЎРЫЎКАМІ З ВЕРШАЎ З «РУНІ» ВА ЎЛАСНЫМ ДОБРЫМ ПЕРАКЛАДЗЕ. АДДАЕМ ГОЛАС ЯЎГЕНЮ САМАХВАЛЕНКУ:**

«Перад намі невялічкі зборнік вершаў, які нядаўна вышаў у Беластоцкім выданні Галоўнага Праўлення Беларускага грамадска - культурнага таварыства ў Польшчы. Перад намі «Рунь» — першая ластаўка, першая радасная падзея ў жыцці нашых кроўных братоў, што ва ўмовах правільнай нацыянальнай палітыкі Польскай Народнай Рэспублікі пабачыла свет і занялася далікатнай, надзейнай зелянню на шляху да творчага росту».

**Далей ідзе амаль поўнасцю прыведзенае ўступнае слова да «Руні». А потым:**

«Калі ўважліва чытаем «Рунь» і намагаемся пільна сачыць за думкай таго ці іншага аўтара, перад тваімі вачыма паўстае маляўнічы вобраз краіны - разлажыстай, зялёнай спакойна задуменнай. Белыя бярозкі, мальвы пад вокнамі, спеў салавейкі, лясы, краса і гонар чароўнай Белавежы ды шырока раскінуты нівы — усё гэта з'яўляецца часцінай душы беларуса, хвалюе паэта. Свае таемныя думкі, свае душэўныя страсці, стараецца беларускі паэт часта-густа ўплесці ў пейзажную, наглядную форму. Такое выяўленне наваколля крые багата пяшчотнай, паўнакроўнай любві да родных куткоў, да роднай зямлі».

**Аўтар рэцэнзіі адзначае верш Міколы Бэзылюка «Зіма», Алеся Барскага «Падарунак», вершы Міколы Буцыліна. Аб Уладзіміру Гайдуку піша:**

«Уладзімір Гайдук... Можна б сапраўды паспрачацца, чаго ў яго вершах больш: пэзіля ці пяра. Ён піша проста, лаканічна, ды так, што у яго словы з калёрамі пераклікаюцца бынцам сябры — шчыра, цёпла і прыгожа.

**Як прыклад любоўнай тэмы Самахваленка прыводзіць поўнасцю (у перакладзе) верш Андрэя Сошкі «М. К.» затым спыняецца на Дзмітры Шатыловічу:**

**Самахваленка адзначае яшчэ вершы Віктара Шведа і канчае рэцэнзію славамі:**

«У цэлым можна сказаць, што паяўленне «Руні» — гэта не толькі радасць, але і поспех калектыву Беларускага Літаратурнага аб'яднання. Пажадайма ж ім прыгожага лёту, добрых ватроў, добрага здароўя і доўгага жыцця.

Развівайце сябры, крыллі! Ляціце ў свет прыгожага з шчырым сэрцам і шырока адкрытымі вачыма, з любоўю да роднай мовы, да суседзяў і ўсіх людзей з чыстым сумленнем!

Спяшайце слядамі вялікіх сваіх папярэднікаў, таленавітых майстроў пяра — Якуба Коласа, Янкі Купалы, Максіма Танка.

Змагайцеся за праўду, за мір, за справядлівасць, за прагрэс! Да новых і ясных вяршынь!»

В. Л.

# Весткі з БССР

### ТВОРЫ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ ЗА МЯЖОЙ

Нядаўна вышаў у свет падрыхтаваны Саюзам пісьменнікаў СССР і Усесаюзнай дзяржаўнай бібліятэкай замежнай літаратуры бібліяграфічны паказальнік «Творы савецкіх пісьменнікаў у перакладах на замежныя мовы. 1954 — 1957 г. г.». Ён характарызуе ўсё больш шырокае распаўсюджванне беларускіх кніг за мяжой.

Камедыя К. Крапівы «Хто смяецца апошні» ў перакладзе Гун Жэньфана двойчы выдавалася шанхайскім выдавецтвам «Сінь вэні». Пад назваю «Мамантавая свіння», камедыя выдадзена ў Берліне ў перакладзе А. Вагнера. У 1956 г. у Варшаве выйшла польская рэдакцыя п'есы, зробленая вядомым пісьменнікам Ежы Юрандотам. Камедыя выдадзена таксама ў Чэхаславакіі. П'еса «Пяюць жаваранкі» перакладзена на вянгерскую і кітайскую мовы.

Апавяданні Э. Самуйлёнка выдадзены Бухарэсцкім выдавецтвам «Карця руса» на румынскай і нямецкай мовах. Вышла ў свет двухтамовае выданне «Векапомных дзён» М. Лынькова. У перакладзе М. Грачэўскага эпапея выдадзена ў Польшчы.

Зборнік апавяданняў Зм. Бядулі «Тры пальцы» ў перакладзе на чэшскую мову М. Вечаравай выдала пражскае выдавецтва «Свет Савету».

У 1956 г. у Шанхаі вышла паэма А. Куляшова «Новае рэчышча» ў перакладзе Му Му-цяня. Выдадзены двума асобнымі выданнямі паэмы «Толькі ўперад» і «Прыгоды цымбал».

Браціслаўскае выдавецтва «Свет сацыялізма» выдала аповесць «У Забалоцці днее» Я. Брыля. Аповесць вышла і на кітайскай мове. Зборнік апавяданняў «Зялёная школа» Я. Брыля выдадзены ў Бухарэсце.

«Глыбокая плынь» І. Шамякіна другім выданнем вышла ў Варшаве. Зборнік апавяданняў «У Маскву» двойчы выдаваўся ў Кітаі.

«Рэха ў гарах» Т. Хадкевіча, «Насустрач» Ул. Шахаўца, «Палескія рабінзоны» Я. Маўра, «Выбачайце калі ласка» А. Макаёнка выдадзены на нямецкай албанскай, кітайскай і чэшскай мовах.

Беларуская літаратура, па словах чэшскага крытыка І. Румлера, сёння прадстае перад замежным чытачом як адзін са сціпланосцаў сацыялістычнага рэалізма.

(«Літаратура і мастацтва»)



Беларускі мастацкі музей. Мінск. Ф. І. ДАРАШЭВІЧ — «НАД БЯРЭЗІНАЙ».

 

# „ЯК ПАСЦЕЛЕМ, ТАК ВЫСПІМСЯ”

Доўгі час раіліся паміж сабою члены сельскагаспадарчага гуртка ў вёсцы Стары Корнін, Гайнаўскага павета, як арганізаваць працу гуртка ў далейшым, што канкрэтна рабіць, каб павышаць выдайнасць сваіх гаспадарак. Некаторыя з членаў прышлі да вываду, што ўсё ж-такі цяжка будзе карыстацца машынамі, гаспадаруючы паасобку, на раскіданых частках.

А было гэта яшчэ зімою, у месяцы студзені. Зімовая пара, доўгія вечары давалі магчымасць жыхарам Старога Корніна дыскутаваць аб сельскагаспадарчых справах сваёй вёскі. Нядрэнна працаваў сельгасгурток, старшынёй якога быў грам. Аляксей Тамашук. Але працай гуртка не быў задаволены сам Тамашук і некаторыя члены.

## У ВЕЧАР 24 СТУДЗЕНЯ

І вось тады, на агульным сходзе членаў сельгасгуртка хтосьці запрапанаваў, каб арганізаваць прадукцыйну спулдзельню. Прапанова была добрай, але некаторыя ўстрымаліся ад яе акцэптацыі, успамінаючы драматычнае развязванне спулдзельняў у 1957 годзе. Дарэчы сказаць, што ў Старым Корніне да 1957 г. не было спулдзельні.

Справа была вырашана і абмеркавана. Трэба было толькі даць ёй арганізацыйную развязку. З дапамогай прышоў старшыня Грамадскай рады нарадовай у Старым Корніне, грам. Аляксандр Сельвесюк, які 2 гады быў старшынёй спулдзельні ў сваёй роднай вёсцы — Махнатым, і мае многа вопыту ў арганізацыйных і гаспадарчых справах супольнага гаспадаравання.

Згоду паміж сабою на арганізаванне спулдзельні выразіла 10 гаспадароў. Усе яны, з'яўляюцца членамі сельгасгуртка і членамі ЗСЛ.

Арганізацыйны сход адбыўся 24 студзеня. Члены спулдзельні пастанавілі назваць яе «Зялёны штандар». На сходзе прысутнічаў рэдактар органа ЗСЛ «Зялёны штандар».

Старшынёю быў выбраны Аляксей Тамашук, а рахункаводам Іван Гаўрылюк. Апошні — гэта малады чалавек, які маючы за сабою сярэднюю школу, пастанавіў застацца на вёсцы і працаваць на супольнай гаспадарцы.

*

Спачатку кядобра вышла. Спулдзельцы атрымалі зямлю ў адным месцы, далі ўгнаенне, а потым ППРН у Гайнаўцы «перамясціў» іх поле ў іншае месца. Гэта многа заважыла на пасеве яравых культур. Бульбу і авёс пасеялі ўпору.

— Самае важнае ў нашай супольнай працы, — гаворыць старшыня, — гэта машыны. Таму мы адразу за пазычаныя ад дзяржавы грошы купілі новы трактар «Зэтар» і прычэпу.

У бліжэйшы час хочам наладзіць зернедрабілку.

Спулдзельня заказала зернедрабілку і выслала належнасць у грошах да Wytwórni Kamieni Młyńskich „Śrutownik” у Шчэціне яшчэ ў месяцы маі і да гэтай пары не атрымала адказу.

Што зрэшты гаварыць аб Шчэціне, калі не лепш выконвае свае абавязкі і ГС у Гайнаўцы, у якім спулдзельцы заказалі снапавязалку і касілку са жніўнымі прыладамі. Чакаюць, чакаюць, нецярплівячыся, бо вядома, зімою гэтыя машыны не патрэбны..., а старшыня ГС, грам. Мікола Піцелюк хіба забыўся, што жнуць і косяць толькі летам.

— А якія вашы планы на будучыню? — я запытаў старшыню.

— Усё залежыць ад нас саміх. Як пасцелемся, так выспімся — кажа старшыня. Каб не марнаваліся машыны, спулдзельцы плануюць уласнымі сродкамі пабудаваць гараж. У наступным годзе запланавана пасеяць і закантрактаваць многа ільну, даход з якога прызначыцца на закуп грузавой машыны. Паводле слоў спулдзельцаў, яны хочуць мець свой уласны сродак транспарту, каб можна было хутка і выгодна падвозіць у горад свае прадукты.

*

Добрая ахвота і імкненне будаваць лепшае заўтра не толькі сабе, але і тым людзям, якія вырабляюць ім машыны кіруюць спулдзельцамі са Старога Корніна.

Жадаем поспехаў!

М. КУРАШ.

## Актыўна падрыхтоўваюцца да барацьбы з агнём

У многіх вёсках грамады Стары Корнін Гайнаўскага павета ёсць пажарныя каманды. Некаторыя з іх працуюць даволі актыўна, напрыклад, пажарная каманда ў вёсцы Мора, камендантам якой з'яўляецца Сцяпан Лаеўскі. Гэтая каманда выязджала нядаўна на гашэнне двух пажараў — у Стары Корнін і ў Старое Березава. Па ініцыятыве каманды ў Моры выкапана 4 басейны.

І ў іншых вёсках сяляне хочуць быць падрыхтаванымі да барацьбы з пажарамі. Нядаўна грамадскім чынам былі выкапаны 2 басейны ў вёсцы Махнатэ. На бліжэйшы час запланавана ачыстка става, які будзе добрым зборнікам вады.

У вёсцы Карыціскі ідуць апошнія прыгатаванні да пабудовы стражацкай рэмізы. Яна будзе будавана грамадскім чынам.

12 ліпеня быў выкапаны басейн у Старым Корніне.

Шкада, што Ваяводскі саюз дабравольных пажарных каманд замала клапоціцца жыццём пажарнікаў у вёсках. Напрыклад: пажарнікі ў Моры хацелі б мець пажарныя ўніформы, таму што свая вопратка не заўсёды адпавядае ў іх працы, а і з прыладамі таксама не зусім добра. (мк)

## Родныя краявіды



Пейзаж. Фота — Карпенюк.

## Незвычайны вулей

Ужо чацвёрты год сяляне з вёскі Тапаляны Беластоцкага павета дзівуюцца пчалінаму рою, які сабе на вулей абраў копулу званіцы вясковай царквы. Відаць сваеасаблівая канструкцыя копулы, якая ўзвышаецца на 15 метраў ад зямлі, вельмі выгадная пчолам, калі на працягу чатырох год яны не зракліся свайго незвычайнага памяшкання. Не перашкаджаюць рою ні зімовыя ветры ні хістанні копулы зімой і ўлетку ў часе звону ў царкоўныя званы. Больш таго, як кажуць сяляне Тапалян, «званічны рой» кожны год выройваецца, выдзяляючы ад сябе другі малады, але сільны рой.

Не менш цікава і тое, што да гэтай пары ніхто з жыхароў Тапалян не спакусіўся паспрабаваць мёду з гэтага незвычайнага вулею (мг)



# У І М Я



Янка Верамюк, член КПЗБ, сакратар антыфашысцкага камітэта ў Навасадах, замардаваны нямецкімі фашыстамі ў 1942 г. у Белавежы.

Мінаў другі год акупацыі. Гітлераўцы штораз больш мардавалі, тэрарызавалі, вывозілі і пацыфікавалі народ. Моцна адчула гітлераўскі здзек насельніцтва Белавежы. На тэрыторыі Гайнаўскага павета гітлераўцы найбольш апетычна накінуліся на Белавежу. І не выпадкова. У міжваенны перыяд Белавежа была адным з цэнтраў рэвалюцыйнага руху на Беласточчыне. Тут дзейнічалі выдатна законспіраваныя ячэйкі КПЗБ, Раённы Камітэт партыі, левая ППС, Класавы Саюз Рабочых драўлянай прамысловасці. Самай масавай была сялянская «Грамада» іменна ў Белавежы. Гітлерызм баяўся гэтай ідэалагічна загарантаванай і арганізацыйна здольнай кадры. Дзеля таго і праводзіў біялагічнае яе знішчэнне. Мала таго, немцы зганялі ў Белавежу па 200 і 300 асоб з Бельскага (у склад якога ўваходзілі тэрыторыі сучасных Гайнаўскага і Семяціцкага паветаў) і Беластоцкага паветаў і зверскі мардавалі іх.

Белавежа стала адной з асноўных гітлераўскіх катоўняў над насельніцтвам Беластоцкага ваяводства.

У маі 1942 г. на плошчы перад царквой выраслі першыя шыбеніцы. Гэта гітлераўскія бандыты так адказалі мясцоваму насельніцтву за пастаянна ўзрастаючую сімпатыю і дапамогу, якую яно аказвала партызанам. Першымі ахвярамі шыбеніц былі муж і жонка Бармуты з Белавежы, абвінавачаныя ў супрацоўніцтве з партызанамі. Яны былі павешаны публічна, на тэлефонных слупах. Незадоўга потым немцы злавілі і павесілі 9 іншых партызан.

У жніўні (таго ж года) было павешаных зноў 11 асоб, сярод якіх былі муж і жонка — Марыя і Баляслаў Цэлей — лясны рабочы — актыўны дзеяч Класавага Саюза рабочых пры санацыйнай уладзе. Разам з імі быў павешаны Антон Парашук — рабочы з Чарлянкі.

У верасні 1942 года гітлераўцы павесілі 16 асоб.

У 1942 г. (дакладна невядома ў якім месцы) такой самай смерцю загінулі — Сцяпан Галёнка, Ганна Галёнка, Мікола Галёнка, Фёдар Дубка з Кавелі, Ян Кендысь з Пасекаў, Саевіч і Піліп Скепко з Верстока.

10 снежня 1942 г. на шыбеніцы ізноў павісла шматлікая група людзей, між іншым, Язэп Панькоўскі, Пётр Шыманюк, Павел Кавальскі Язэп Лясота з Семяноўкі.

Люты 1943 г. быў месяцам новых зверстваў. На працягу гэтага месяца гітлераўцы павесілі каля 30 асоб. Сярод павешаных 1 лютага былі: Антон Мічэйка, Іван Мічэйка з вёскі Візанкі, Язэп Мароз з Уснаршчыны, Аляксандр Вішнеўскі з Вулькі, Званкоўскі з Гайнаўкі, Аляксандр Ігнацюк, Рыгор Якоўскі, Нікіфар Сегень з Каменя, Ян Рыбак з Тафілаўцаў, Каравай з Палічнай. На працягу няпоўных двух год фашысты павесілі ў Белавежы больш чым 150 асоб.



У гэтым доме жыла Марыя Галёнка ў Белавежы, сакратар РККМЗБ, член КПЗБ. Дзеяч антыфашысцкага камітэта.

Амаль кожная вёска, мясцовасць, амаль кожная сям'я ў Гайнаўскім павеце цярпела гвалт, тэрор і мардаванне. Побач шыбеніц і пасобных выпадкаў мардавання, немцы стасавалі масавыя экзекуцыі на



 

# НЕКАЛЬКІ СЛОЎ аб мастацкай самадзейнасці

Эканамічнае і культурнае жыццё нашай вёскі з года ў год безупынна змяняецца ў напрамку дальнейшага ўзросту яе эканомікі і культуры.

Асаблівую ролю ў культурным росце вёскі іграе сялянская моладзь. Гэта не выпадкова. Моладзь заўсёды была прыхільнікам новага. Дрымотнае і павольнае жыццё вёскі ў вяках не здавальняе сучаснікаў.

Адным з праяваў культурнага росту вёскі, з'яўляецца мастацкая самадзейнасць, у якой актыўна ўдзельнічае моладзь, а таксама і старэйшае пакаленне. У сучасны момант на нашых вёсках існуе 44 гурткі беларускай мастацкай самадзейнасці. Мастацкія гурткі прызваны адыграць вялікую ролю ў агульным культурным узросце нашай краіны.

Шмат змянілася на лепшае ў жыцці вёскі, але многае яшчэ хацелася б бачыць лепшым.

### ЦІ ПАТРЭБНЫЯ СВЯТЛІЦЫ?

Культурнае жыццё на вёсцы гуртуецца пераважна вакол святліцы. Там можна карысна і цікава правесці час. Святліцы — гэта, таксама, месца для заняткаў і вучобы.

Аднак вельмі часта вясковыя святліцы страшаць сваім вонкавым і ўнутраным выглядам.

Вёска Шэрні Бельскага павета — добраўпарадкаваная. Каля 40 хат у жыхароў Шэрняў, але ёсць адна, якая нічым непадобная на ўсе іншыя.

З абадранымі сценамі, дзіравай страхой і зусім непрыглядным унутраным выглядам, стаіць на канцы вёскі мясцовая святліца. На падлозе поўна смецця, на вокнах замест фіранак абрыўкі паперы.

— Сёння яшчэ чыста — гавораць мне, — калі я быў там, — хоць гэтая чысціня нагадвае склад макулатуры.

Няма нікога хто апекаваўся б святліцай, якая існуе тут ад 1952 года. Вёска электрыфікаваная, але ў святліцы няма радыёпрыёмніка, ці нават радыёкропкі. Больш таго — не знойдзеш тут нават стала. Мыюць святліцу толькі перад вяселлем.

— «Няма моладзі ў нас» — так мне тут сказалі.

Каля хат відаць групкі дзяўчат і хлопцаў у ажыўленай гутарцы, а за вёскай хлопцы рэжуць у карты.

А вось другі прыклад. Вёска Пілікі Бельскага павета. Тут моладзь грамадскім чынам адрамантавала святліцу. Абсталяванне было куплена часткова з уласных сродкаў. Святліца працуе добра, хоць цяжкасцей было на пачатку таксама многа. У свой час святліца была месцам ігры ў карты. У вёсцы было многа прыхільнікаў кілішка, а пры гэтым не абыходзілася без боек.

Цяпер жыццё ў Піліках выглядае зусім інакш. Святліца стала месцам культурнага адпачынку. Сум разганяе музыка з радыёпрыёмніка, кожны тыдзень моладзь арганізуе культурныя патанцоўкі без гарэлкі пры адаптары.

Арганізаваўся тут і мастацкі гурток, які заваяваў агульную папулярнасць. У гуртку 2 секцыі — музыкальная і драматычная. Акрамя канцэртаў у сябе, гуртоўцы выязджаюць да навакольных вёсак. На канцэртах заўсёды людна. Значна паменшылася ў Піліках колькасць выпітых літровак, няма боек, моладзь не траціць час на карты. Яна знайшла больш цікавы занятак у святліцы і ў гуртку мастацкай самадзейнасці. На змены, якія адбыліся ў Піліках, мастацкая самадзейнасць аказала немалаважны ўплыў.

Прэзідыум грамадскай рады нарадовай мае тут добрага памочніка ў рэалізацыі планаў па добраўпарадкаванню вёскі.

Вось дзве вёскі, але як яны розняцца між сабой.

Дзе прычына поспехаў у Піліках? Тут ініцыятыва і згуртаванасць — імкненне зрабіць жыццё цікавым, стаіць у тэме дня.

Часта сустракаюцца факты, калі мастацкія гурткі ў тых вёсках, дзе няма адпаведнага памяшчэння працуюць добра, як напрыклад гурток у Шчытах, у той час, калі па другіх вёсках святліцы пустуюць і страшаць сваім выглядам.

Безумоўна, што адной з умоў добрай працы — гэта адпаведнае памяшчэнне. Не менш важная справа — гэта ўнутранае афармленне святліц. Яны павінны мець выгляд сапраўднай культурнай установы.

У нашым ваяводстве існуюць святліцы з прыгожым і адпаведна выкананым афармленнем, якое не патрабуе большага накладу сродкаў, а пры гэтым практычнае. Было б не без карысці, каб да гэтых святліц былі арганізаваны экскурсіі з мэтай пераняць вопыт. У гэтай справе ахвотна дапаможа Poradnia Ruchu Amatorskiego у Беластоку. (пч)



У летнім лагеры гарцэраў.
Фота — В. Касакоўскі

# НАВУКОВЫ ГУРТОК ФАЛЬКЛАРЫСТАЎ

У ліпені гэтага года сярод студэнтаў першага курса беларускага аддзялення Завочнай настаўніцкай студыі ў Беластоку арганізаваўся навуковы студэнцкі гурток беларускай народнай творчасці. У склад гуртка ўвайшло 24 студэнтаў. Гурткоўцы выбралі праўленне гуртка, у склад якога ўвайшлі: старшыня — Лідзія Смалеўская, сакратар — Зоя Алекша, членам праўлення выбрана Міколу Сідарука.

Гурток мае на мэце не толькі зазнаямленне яго ўдзельнікаў з беларускай вуснай народнай творчасцю, у тым ліку і творчасцю беларусаў Беласточчыны, але і актыўны ўдзел у збіранні і даследванні беларускага фальклору Беластоцкай зямлі. Акрамя самастойных запісаў беларускіх народных песень, казак, легенд, прымавак, прыказак і загадак, удзельнікамі гуртка ў часе іх працы ў вёсках і мястэчках Беласточчыны ў якасці настаўнікаў, прадбачана таксама спецыяльная фальклорная экспедыцыя.

Гурток узнік пры садзеянні выкладчыка ЗНС, выконваючага абавязкі кіраўніка беларускага аддзялення ЗНС, мгр. Міколы Гайдука.

Найбольш цікавыя запісы і даследванні з беларускага фальклору Беласточчыны члены гуртка будуць публікаваць у «Ніве» і ў зборніку навуковых даследванняў, якія рыхтуе БГКТ. (мг)

# АЙЧЫНЫ 3)

людзях, якія або належалі да руху апору або сімпатызавалі яму.

У 1942 г. у Белавежы былі расстрэляны Аляксандр Дзенцял, Усцін Літвіновіч, Ігнат Дронь, Міхась Бушко, Аляксандр Валкавыцкі, Максім Шпаковіч, Раман Шпаковіч, Сяргей Шпаковіч, Пётр Фенько, Аляксандр Бучэль, Аляксандр Станкевіч, Сяргей Невяровіч, Лявон Надляшчык, Уладзімір Зорын, Галена Шпац, Уладыслаў Радкевіч, Казімір Рудскі, Міхась Гарбоўскі, Аляксандра Казлоўская з мужам, Змітры Каўшыла, Мар'ян Міцкевіч, Юзэф Купэльніцкі, Леанард Пшыбыла, Аляксандра Крушэльніцкая, Галена Андраеўская, Казімір Панецкі, Людвік Незгадзінскі, Цімафей Кіцэль, Янка і Вера Гіжэўскія, Нікадзім Петрань, Сяргей Каўшыла, Уладыслаў Адамчык, Філіп Аверчук, Ірэней Вялічка, Янка Каўшыла, Рыгор Воўчык, Мікола Мэльцар, Янка Макрэцкі, Марыя Галёнка, Курыла, Сцяпан Кіцэль, Сяргей Жэдзь, Аўгень Рэент, Аляксей Зялінскі, Кандрат Тарасюк, Паўлоўскі, Мікіта Аўласюк, Люба Аўласюк, Пётр Грыгарук, Амільян Раманюк, Якуб Мароз, Кацярына Казлова, Ніна Дзянісава, Еўдакія Фралова, Язэп Сахарчук, Люба Сахарчук, Янка Верамюк, Людвік Ежык, Мікола Раманюк, Аляксандр Міхалоўскі, Ян Аліхвер, Пётр Каравой, Рыгор Герасімюк, Аляксандр Семянюк, Амільян Сцепанюк, Стэльмах, Андрасюк, Бяглюкова і многа іншых з розных бакоў Бельскага павета.

24 снежня 1942 года гітлераўцы замардавалі ў Белавежы больш чым 150 асоб. У тым часе загінула сям'я Раецкіх з Шымак: Мікола Раецкі з сынамі Янкам і Язэпам і Віктар Раецкі. Загінулі таксама Янка і Язэп Лясота з Цісаўкі Беластоцкага павета.



Два партызаны, прозвішч якіх ніхто не ведае, з атрада ім. Кутузава

Гады 1942 — 1943 — гэта гады масавага вынішчэння людзей. Дзікім тэрорам немцы намагаліся знішчыць партызанскі рух, які ўсё ж-такі разгортваўся ўсё шырэй, і захаваць сякі-такі спакой на тылах. У 1943 годзе гітлераўцы расстралялі ў Белавежы каля 400 асоб. Зараз у Белавежы тры вялікія магільнікі: у Дзяржаўным рэзерваце, за Стачком каля Браўскай дарогі і каля чыгункі на жвіроўні.

Гітлераўцы мардавалі не толькі ў Белавежы. Моцна пацярпела і Гайнаўка. У калядную ноч 1943 г. гітлераўцы расстралялі ў Гайнаўцы каля 300 асоб. Сярод вялікай колькасці загінуўшых падчас акупацыі ў Гайнаўцы назавем некаторых: Галіна, Аліна і Казімір Пташынскія, Антон, Францішак, Міраслава, Казіміра, Артур, Сцяпан і Уладыслаў Касідлы, Уладыслаў, Зігмунт, Зоф'я, Вальдэмар, Варвара і Зігмунт Раманоўскія, Аўгіня Квяткоўская, Валерыян Жукоўскі, Адам, Аўгіня, Юры, Славамір, Аліцыя і Міраслаў Міранюкі; Ярдан Альшэўскі, Іван і Вінцук Каладзеі, Уладыслаў Крыўда, Станіслаў Корша, Янка Ленэрчык, Галена Арлоўская, Аўгіня Канарчык, Уладыслаў Рачынскі, Казімір Адамчык, Эдуард Лесяк, Міхась



Каравай з вёскі Палічна павешаны ў студзені 1943 г. у Белавежы.
Фота — В. Касакоўскі

Раманюк, Пётр Турэйка, Язэп Сахарчук, Уладыслаў Алёбрэг, Станіслаў Керсноўскі, Аляксандр Далашчук, Язэп Валасевіч, Станіслаў Бурак, Вінцук Лявіцкі, Сцяпан Ваховіч, Адам Рачкевіч, Станіслаў Уліцкі, Мар'ян Зох, Станіслаў Новак, Матыльда Зялінская, Галена і Ян Зялінскія, Аляксандр, Ян і Уладыслаў Кусьнеры, Сцепаніна, Ядвіга, Рышард, Анеля і Мар'ян Тывонкі; Хрысціна Клякнер, Севастыян Галёнка, Міхась Кірылка, Рыгор Лахманаў, Грыгарук, Язэп Грэчан, Пётр Ляўчук, Язэп Сурвіла, Аляксандр Астапкевіч, Міхась Сахарчук, Якуб Сакоўскі, Аляксандр Заброцкі, Рыгор Максымюк, Марыя Пшанічная, Аляксандр Дзяцел, Юстын Ліцкевіч і сотні іншых.

Доўгі спісак ахвяр фашызма выклікае ў сэрцы вялікі боль.

# МАТУЛЯ, МАТУЛЯ




Матуля, матуля,
На што ўзгадавала,
А якой пацехі
З мяне дачакала. (2 разы)

Гора ж маё, гора —
Не развяселюся,
А я з таго гора
Пайду утаплюся. (2 разы)

Спяваў бы, спяваў бы,
Дык не маю ноты,
Танцаваць пайшоў бы
Парваныя боты. (2 разы)

Узяў бы падвязаў бы -
Дзяўчаты смяюцца,
Пасталы узяў бы
Аборы вязуцца. (2 разы)

Гора ж маё, гора,
Не развяселюся,
А я з таго гора
Пайду утаплюся. (2 разы)

# ГРУЗІНСКІЯ ІРОНІІ

**Параілі бабульцы, каб язык за зубамі трымала.**
**— Перш устаўце мне іх — адказала.**

*

**І пачала мае свой мядовы месяц.**

*

**Віно сказала: — Я псую чалавека, а мяне псуе вада.**
**Метр сказаў: — Кожны прадаўшчык мерае мяне на свой локаць.**
**Рахунак сказаў: — Нарадзіўся я каля буфета, а выхаваў мяне афіцыянт.**

*

**Крытыкаваць кіраўнікоў, усёроўна, што ільвіцу цалаваць — шмат страху, а ніякай прыемнасці.**

*

**Калі цябе заганяюць у бутэльку, дык усёроўна з якой этыкеткай.**

*

**Аслоў не дапускаецца чытаць лекцый**
**У свеце звяроў няма прэтэкцый.**

*

**Курортнік выпадкова заглянуў у кухню санаторыі і заўважыў, што кухар пальцамі накладае мяса на талеркі. Адразу пабег да дырэктара і расказаў заўвагу.**
**Дырэктар паслухаў уважна і абяцаў прыняць адпаведныя меры.**
**На другі дзень на дзвярах кухні была павешана таблічка з надпісам: «Пастаронням уваход забаронены!»**

# ДАЎГІ

Многія людзі залезлі ў даўгі па самыя вушы.

Ім хочацца жыць вольна, але даўгі не даваляюць. Людзі звыклі ў ружовым колеры ўсё бачыць. Займу, думаюць, грошыкі на нейкі час, а пасля аддам і «справа ў шляпе».

А «шляпа» аказваецца з дзіркай і «справа» правальваецца.

Чалавек лёгкадумны пападае ў фінансавую кабалу. Не паспееш апамятацца, як доўг сядзіць на плячы і руکі звязвае.

Пакуль стары доўг аддасі, ужо новы з'яўляецца. Даўгі вылазяць, як баравікі пасля дажджу.

Ёсць людзі, якія не вельмі ахвотна аддаюць даўгі. І хутка яны пераконваюцца, што самі сабе ў кашу напльвалі. Кепскую славу сабе здабываюць і даверу ў асяроддзі на зламаны грош не маюць.

Ад..ім словам прааналізаваць адносіны паміж людзьмі — нялёгка.

Людзі, як музыканты ў аркестры, кожны чалавек на іншым інструменце іграе.

У сучасны момант трэба памагаць людзям, таму і я спяшаю з дапамогай тым, якія маюць даўгі. Першая парада нашым чытачам — найлепш не залазіць у даўгі. Перацярпець і не занязь — гэта значыць быць з чыстым сумленнем. Калі мая парада дайшла да вас позна, хто-небудзь з вас ужо ў даўгах, што і спаць не можа, тады, людзі добрыя, карыстайцеся тэлефонам.

Тэлефонны апарат — збаўленне. Для ўстаноўкі тэлефона варта нават далей у доўг залезці. Калі ж гэты апарацік будзе ў вас абсталяваны, вы можаце сядзець сабе тады ў хаце спакойна, упэўнена, як у казацкім сядле і распачынаць ліквідацыю даўгоў.

Як гэта робіцца?

Проста. Узяць тэлефонную трубку і прасіць, каб паклюючыць вас з патрэбнай асобай


Без слоў

А можа ваш крэдытар не мае тэлефона, тады папрасіце яго на размову пры дапамозе паштальёна. Размову распачынайце мілым голасам: «Добры дзень, даражэнькі! Помніш, я пазычыў(ла) у цябе столькі ды гэтулькі... Прабач, будзь добры, што не аддаваў доўг. З вялікай удзячнасцю звяртаю табе яго па тэлефону».

Пасля такой размовы вы можаце спаць спакойна, затое не здрамле нават той, з кім вы размаўлялі.

*Дзядзька Левань*




## Грэчаская сумесь

— Учора я амаль дзве гадзіны спявала ў суседзяў.
— Добра зрабіла, таксама іх не люблю.

*

— Калі б я паслаў ліст да самага выдатнага п'яніцы ў нашым горадзе, каму даручылі б?
— Вярнуўся б адрасату.

*

— За ўсе цудоўныя хвіліны майго жыцця, я ўдзячны тэатру.
— Часта ходзіш у тэатр?
— Не я, мая жонка!

*

Ён (чытаючы газету): — Аказваецца, на чыгунках менш катастроф, як на шасейных дарогах.
Яна: — Вядома! У паравозе машыніст качагара не цалуе.

## Мастацтву

— Цудоўныя рэчы я даведаўся аб табе, — гаворыць муж сваёй прыстойнай жонцы.
— Што такое?
— А тое, што ў мінулым тыдні цябе, зусім раздзетую маляваў нейкі мастак.
— Так, гэта праўда. Але павер, мой любы, нічога мне не пагражала.
— Як нічога?
— У атэлье гэтага мастака было вельмі цёпла.

## Замежны гумар


— Пранук, ты нязграба!

## ЭПІГРАМЫ

Чэслаў Кур'ята

**АРОЛ І КРОТ**

СКАЗАЎ АРОЛ КРАТУ:
«Я ЛЕТАЮ, ТЫ ДРЭМЛЕШ»;
А КРОТ ЯМУ НА ГЭТА:
«СПРАБУЙ, ТЫ, УЛЕЗЬ ПАД ЗЕМЛЮ».

Пераклала: З. БУСЛОВІЧ

Ян Чаркі

УСЁ АДДАЎ БЫ ДЛЯ НАРОДА
(АПРАЧА ДАЧЫ І САМАХОДА)

Рычард Кузэўскі

**ПАМЫЛКА ПІСЬМЕННІКА**

ПАСЛЯ ГУЛЯНКІ Ў ЖЫВАЦЕ РАЗБОЙ,
А ЁН ГАВОРЫЦЬ — ТВОРЧЫ НЕПАКОЙ.

## Думкі аб жанчынах

Закаханая жанчына неразважлівая і неэканомная. Ідзе ў інстытут прыгажосці, аддае шмат грошай, падцаецца розным касметычным працэдурам для таго, каб прыгожым быў твар. І ўсё робіць з думкай, што малады чалавек, з якім спатканецца, знішчыць гэта.

*

Слоўнік звычайнай жанчыны налічвае 750 слоў. Не многа, праўда? Затое ж словы гэтыя пастаянна ў вялікім абароце.

*

Сярэдні век — час калі валасы з сівых робіцца чорнымі.

*

Добры муж — мужчына, які думае, што ўзяў добрую жонку.

*

Няма жанчын, якіх нельга зразумець, ёсць толькі мужчыны, якія не патрапяць іх разумець.

*

«Грошы знаходзіцца на вуліцы» — сказала адна вулічная дзяўчынка.

*

Хто дмухае на гарачую жанчыну, той на халоднай папарыцца.

*

Самая вялікая мара мужчыны, даць утрыманне жанчыне за яе ўласныя грошы.

### Развязка адгадкі
з № 28/176 «Нівы»

Паставіўшы адпаведныя літары замест крэсак мы атрымалі пачатак народнай беларускай песні, «Бывайце здаровы — жывіце багата».

У выніку лясавання кніжныя ўзнагароды атрымліваюць:

1. Віця Міранюк — Рыбалы, Бельскі павет,
2. Іра Бэроўская — Асаўка, Гайнаўскі павет,
3. Марыя Касцючук — Кленікі, Гайнаўскі павет,
4. Коля Калiш — Монькі,
5. Яўгень Сац — Вроцлаў,
6. Зіна Карповіч — Страшава, Беластоцкі павет,
7. Алёша Колас — Малешы, Бельскі павет,
8. Коля Семянюк — Махнатае, Гайнаўскі павет,
9. Генрых Матулевіч — Кнышэвічы, Сакольскі павет,
10. Люба Сахарчук — Паўлы, Бельскі павет.

Узнагароды высылаем поштай.